

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 9(37), 1—7 красавіка 1993 г. Цана 3 рублі

## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:



## Парушаны сцэнарый,

### або Як выбіралі мэра Віцебска

16 сакавіка сесія Віцебскага гарсавета выбірала старшыню гарвыканкама горада. Пастаноўка гэтага пытання ў парадак дня была даволі нечаканай для большасці дэпутатаў. Але, паколькі М. Федарчук на апошняй сесіі аблсавета выбраны намеснікам старшыні аблвыканкама, гарсавет задаволіў яго просьбу і вызваліў ад абавязкаў першай асобы горада. Затым пачалося вылучэнне кандыдатур на вакантную пасаду. Па прапанове гарвыканкама і прэзідыума гарсавета было названа прозвішча старшыні Кастрычніцкага райсавета Віцебска В. Неушава. Усё йшло як па масле, але раптам слова папрасіў дэпутат Х. Жаляпаў. Ён заявіў з трыбуны сесіі, што ў адпаведнасці з рэгламентам выбары старшыні гарвыканкама павінны адбывацца на альтэрнатыўнай аснове, і вылучыў кандыдатуру А. Гаўруцікава. Так быў парушаны запланаваны безальтэрнатыўны сцэнарый выбараў «гарадскога галавы». У бюлетэні для тайнага галасавання былі ўнесены прозвішчы В. Неушава і А. Гаўруцікава.

Аднак наменклатура, напужаная такой нечаканай хадой падзей, пераадолела хвілінную разгубленасць. У час абмеркавання кандыдатур гучалі заклікі пра тое, што на пасадзе старшыні гарвыканкама і гарсавета павінен быць чалавек, вядомы як у горадзе, так і ў рэспубліцы, з вопытам кіраўнічай работы, які не будзе губляць час, каб асвоіцца на новай пасадзе, а адразу возьмецца за звыклую для сябе справу.

Намеснік старшыні гарсавета Л. Аленская, якая вяла сесію, прапанавала, каб у падтрымку кожнага кандыдата выступіла не больш дзвюх асоб. Дэпутаты пагадзіліся з гэтым. Прыхільнікі А. Гаўруцікава не парушылі ўмовы, у падтрымку ж В. Неушава з маўклівае згоды Л. Аленскай выступіла ажно пяць чалавек.

Старшыня аблсавета У. Кулакоў падвёў рысу пад абмеркаваннем. Ад імя аблвыканкама ён заклікаў галасаваць за В. Неушава. Але нягледзячы на такі відавочны псіхалагічны ціск, больш чвэрці дэпутацкага корпуса (30 са 105) прагаласавала супраць В. Неушава.

Але 74 дэпутаты ўсё ж аддалі галасы за яго. Ён стаў чарговым кіраўніком гарадской улады. Несумненна, тут адыграла ролю і тое, што цяперашні гарсавет складаецца ў асноўным з апаратчыкаў. Магчыма, паспрыяла і тое, што А. Гаўруцікаў— даволі малады і адносна малавядомы ў горадзе дзеяч. Аднак пагадзімся з Кулаковым: перспектыва ў Гаўруцікава наперадзе добрая. І пажадаем Аляксею поспехаў.

«Расправіўшыся» з арганізацыйным пытаннем, зацвердзіўшы гарадскі бюджэт на бягучы год, дэпутаты пачалі патрохі знікаць з залы паседжанняў. Такім чынам, пасля абедзеннага перапынку ледзьве набраўся кворум. Гэты дробны факт шмат гаворыць пра цяперашні гарсавет, пра адносіны народных выбраннікаў да сваіх абавязкаў.

Нехта прапанаваў надрукаваць у газеце «Віцьбічы» прозвішчы тых, хто знік, не дачакаўшыся канца сесіі. Але было бачна, што і гэтая прапанова не вельмі напалохала дэпутатаў. Бо хто цяпер адказны перад сваімі выбаршчыкамі?

**А. МІКАЛАЕЎ.**

## СВЯТА ДУХА БЕЛАРУСКАГА



**Поўную залу ў Беларускім акадэмічным тэатры імя Я. Коласа сабрала імпрэза, прысвечаная 75-ым угодкам абвяшчэння БНР.**

Мастацкая праграма, над якой самаадданa папрацавалі калектыў тэатра (у прыватнасці, дырэктар і галоўны рэжысёр В. Маслюк, кіраўнік музычнай часткі Г. Шэмет), аддзел культуры гарвыканкама (загадчык В. Кібісаў) з дапамогаю іншых установаў і дзеячоў культуры Віцебска, Гомеля, сталіцы, упэўнены, задаволіла густы аматараў самых розных жанраў і стыляў.

Кагосьці зувабіла сур'ёзная музыка, іншы пляскаў у ладкі песням рок-гурта «Грамада», хтось затоена слухаў паэзію ў выкананні коласаўцаў П. Ламана і Н. Аладкі...

Але ўсіх з'яднала атмасфера свята, свята духа беларускага...

**К. СТУСЬ.**

**На здымку:** фрагмент са свята.

## ЗАЯВА (пазіцыя)

### ВЫКАНКАМА ЦР БСДГ У СУВЯЗІ З ПРЫНЯЦЦЕМ ПАСТАНОВЫ ВС РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ПРЫЗНАННІ СТРАЦІЎШАЙ СІЛУ ПАСТАНОВЫ ВС РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ЧАСОВЫМ ПРЫПЫНЕННІ ДЗЕЙНАСЦІ КПБ—КПСС НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ»

У беларускай гісторыі адной з найбольш антынародных сіл з'яўлялася камуністычная партыя. У пачатку свайго існавання яна адмаўляла беларусам у этнічнай самабытнасці. Затым, захапіўшы ўладу, распачала вынішчэнне ўсяго таленавітага, адметнага, свядомага. Уся моц створанай кампартыяй таталітарнай сістэмы была скіравана на ўсеагульную люмпенізацыю і русіфікацыю. Былі зліквідаваны людзі, якія жадалі і ўмелі самастойна гаспадарыць—найбольш працавітыя сяляне і прадпрымальнікі. У курапатах і канцлагерах лёг цвет нашай нацыі—інтэлігенцыя. Не трапіўшая пад рэпрэсіі частка народу была ператворана ў паслухмяных рэжыму выканаўцаў вялікадзяржаўнай дактрыны—«Коммунизм шагает по планете», у рабочы матэрыял, гарматнае мяса.

Маскоўска-камуністычная імперыя праводзіла ў Беларусі такую эканамічную палітыку, у выніку якой на нашай зямлі былі наўмысна створаны прамысловыя і аграпрамысловыя гіганты, арыентаваныя на сыравінныя і энергетычныя рэсурсы Расіі, што прывязала краіну да імперскага цэнтра.

У духоўнай сферы вынікам палітыкі каланіяльнага рэжыму сталіся зруйнаваная гістарычная спадчына, закрытыя беларускія школы, выцесненая з грамадзянскага ўжытку беларуская мова.

Сённяшняя і нядаўняя камуністычная наменклатура Беларусі, пануючы на ўсіх узроўнях улады, праводзіць ранейшую антынацыянальную палітыку. Праз кантралюемыя ёй сродкі масавай інфармацыі апантана выступае супраць нашай дзяржаўнасці і духоўнасці. Яна за аднаўленне СССР, за вяртанне камандна-адміністрацыйных метадаў гаспадарання, за вяртанне Беларусі ў каланіяльны стан «саюзнай рэспублікі».

Паважаючы правы людзей на перакананні, у тым ліку і камуністычныя, разам з тым лічым, што ў незалежнай Беларусі няма будучыні ні для КПБ, ні для яе двайніка ЛКБ. У Беларусі можа знайсціся пэўнае месца толькі для аб'яднання камуністаў, якія выступаюць за незалежнасць, дэмакратыю і прававую беларускую дзяржаву.

**Выканкам ЦР БСДГ.**

✦ *У мясцовых філіях*

## Адусюль патроху

У Шклове прадстаўнікі БСДГ, АДПБ, СПБ і дэпутатаў утварылі раённую раду БНФ.

* * *

У Магілёве ўзнікла гарадское аддзяленне Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

* * *

Пачаў работу дыскусійны клуб, які арганізаваны магілёўскімі сябрамі АДПБ.

* * *

У Бабруйску створана гарадская каардынацыйная Рада дэмакратычных партый ды рухаў у складзе прадстаўнікоў мяйсцовых арганізацыяў АДПБ, БНФ, НДПБ, БСДГ, Бабруйскага аддзялення асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій, групы дэпутатаў гарсавета. Да Рады далучылася мяйсцовая суполка Згуртавання беларускай шляхты.

**Ю. С.**

## Дыялог працягваецца

Як стала вядома, днямі ў Віцебск прыедзе група палітыкаў з Нінбурга (Нямеччына).

Плануюцца сустрэчы з прадстаўнікамі дэмакратычных партый ды рухаў горада.

**Б. БАРЫСАЎ.**

Супрацоўнікі газеты выказваюць сардэчную падзяку жыхарам Нінбурга і Хойі (Нямеччына) за добрыя пажаданні й падтрымку «Выбара».

Zeitungsmitarbeiter drücken ihren herzlichsten Dank den Einwohnern von Nienburg und Hoya für Glückwünsche und Unterstützug der Zeitung «Wybar» aus.

